**Нумар трэці (3/2000) сьнежань**

Рэдакцыя:
222120,Барысаў, п/с 641,
tel/fax (01777) 41384
e-mail: mbh@crossrd.org.by

Наклад 299 асобнікаў

Барысаўская
# МАЛАДАЯ ГАЗЭТА


с.4

**МЯНЕ НЕ РАЗУМЕЮЦЬ... І ШТО?**

*«...Мая родная маці не разумее, што мяне вабіць у доўгіх байках па калена»*

**Sandra**



с.6

**STOP SMOKE!**

*«...Справа ня толькі ў тым, што кропля нікаціну забівае каня. Урэшце, ты заўсёды маеш супакоіцца тым, што ты ня конь!»*

**Алена Аўтушка**

## АНЭКДОТ НУМАРУ

У дзіцячым садку навагодні ранішнік. Выхавацелька:

– Дзеткі, давайце гучнагучна паклічам таго, без каго ня можа адбыцца нашае сьвята.



– Міліцыя! Міліцыя!! Міліцыя!!!

# АКЦЭНТ НА ВЫБАРЫ

Міраслаў Жукоўскі

***У 2001 годзе ў нашай краіне маюць адбыцца гэтак чаканыя беларускай грамадзкасьцю прэзыдэнцкія выбары. Людзі чакалі выбары ў 1999 годзе, калі завяршыўся тэрмін легітымнай кадэнцыі на пасту кіраўніка дзяржавы Лукашэнкі, але чаканьні ня спраўдзіліся. Першы прэзыдэнт незалежнай Рэспублікі Беларусь нахабна ўзурпаваў уладу, прычым ня толькі выканаўчую, але заканадаўчую й судовую.***

Рыхтык напярэдадні каталіцкіх Калядаў 24 сьнежня на офісе Цэнтру "Скрыжаваньне" адбылася другая ў гэтым месяцы сустрэча прадстаўнікоў моладзевых арганізацыяў, нефармальных асяродкаў і суполак Барысаўшчыны і Крупшчыны. Галоўнай мэтай спатканьня было ўтварэньне рэгіянальнай моладзевай кааліцыі, якая мае актыўна заняцца мабілізацыйнай кампаніяй у згаданых рэгіёнах, а таксама на Бярэзіншчыне, з актывістамі дэмакратычнага руху якой сёньня ўсталёўваецца кантакт.

Ідэю ўтварэньня моладзевай кааліцыі прапанавалі прадстаўнікі Барысаўскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне", Маладога Фронту "Барысавічы" і футбольнага пэрыёдыка "Offside". А падтрымалі яе калектывы ўсіх моладзевых незалежных выданьняў: з Барысава – калектыў нашай рэдакцыі, зь Печаў – "Пячанскі веснік", з Крупак – "Малое Палесьсе", Навасадаў – "Павятовы летапіс". Апрача таго, ідэя кааліцыі была падтрыманая і прадстаўніцай журналісцкай арганізацыі "Час моладзі".

На гэтым паседжаньні была вызначаная назва кааліцыі – "Акцэнт". Гэтае слова спадабалася ўсім без вынятку, бо ў сваіх нетрах яно хавае вельмі папулярнае ў сёньняшнім дэмакратычным дыскурсе слова – акцыя. Менавіта вялікую колькасьць самых разнастайных, цікавых і нетрадыцыйных акцыяў прадугледжана ажыцьцявіць у кантэксце маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбараў, каб заахвоціць як мага большую частку моладзі да актыўнага ўдзелу ў іх.

Маладыя дэмакраты ўжо заакцэнтавалі сваю ўвагу. Надыйшла чарга заакцэнтавацца астатнім.



*Падчас леташніх вандровак закладаліся падваліны будучай моладзевай кааліцыі*

# НЯ ТРЭБА МАЎЧАЦЬ І БАЯЦЦА

***Неяк ў мінулым годзе ў вайсковым гарадку Печы я пазнаёміўся з хлопцамі, якія працуюць у Цэнтры грамадзкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне".***

Сяржук Цярэня

Сярод жыхароў гарадка часьцяком можна было пачуць запамінальную назву "Offside". Зрэшты, шмат каму гэтае слова нічога не казала, бо ніхто ня ведаў што яно азначае і з чым зьвязанае. Мінаў час. Але некаторым маім сябрам надта карцела даведацца падрабязьней пра "Offside".

І вось аднойчы на футбольным матчы, у якім удзельнічаў барысаўскі БАТЭ, нейкія хлопцы раздавалі футбольны перыёдык "Offside". Дык яшчэ й на беларускае мове! Мы зацікавіліся гэтай газэтай і пачалі распытваць хлопцаў, хто яны й адкуль? А вось калі вызначылася, што яны з нашага гарадка, і выдаюць ня толькі гэтую газэту, нашая зацікаўленасьць узрасла яшчэ больш. Нам прапанавалі наведаць іхны Цэнтар.

Прыйшоўшы туды, мы ня толькі пазнаёміліся з футбольным пэрыёдыкам больш дасканала, а й знайшлі там шмат цікавага: убачылі ўпершыню апазыцыйныя газэты і іншую шматлікую літаратуру. Цікава тое, што многія з нас зьяўляліся аднадумцамі гэтых хлопцаў, але дагэтуль так не маглі выказваць свае пагляды, бо думалі, што нас ніхто не зразумее. Праз некаторы час Цэнтар сталі наведваць ня толькі мы, а й яшчэ новыя хлопцы, якія прыходзілі ўжо пазнаёміўшыся зь "Пячанскім весьнікам", які мы выдавалі й актыўна распаўсюджвалі.




Ужо праз некалькі месяцаў у Пячах утварыўся досыць прыстойны гурток моладзі, які трымаўся пагляданў беларускага адраджэньня і якому не было абыякава цяперашняе жыцьцё: урэзаньне студэнтам ільготаў, павелічэньне працяглясьці афіцэрскае службы на пяць гадоў і г.д.

Зь цягам часу шэрагі нашага гуртка разрасталіся, у выніку чаго пачалі вылучацца асобныя суполкі, якія пачалі ня толькі выяжджаць на апазыцыйныя дэманстрацыі ў Менск, але й арганізоўваць разнастайныя акцыі ў сваім гарадку. І толькі дзякуючы такім актыўным дзеяньням складаўся сапраўдны позірк на дзеяньне ўладаў.

Пачало фармавацца стаўленьне да выбараў. Людзі нарэшце пачалі разумець, што ня трэба баяцца выказваць свае думкі пра лукашэнкавы рэжым, які іх не задавальняе. Яны пачалі разумець, што маюць шанец прыйсьці на прэзыдэнцкія выбары і зрабіць тое, што яны лічуць вартым для сябе. Людзі ўжо адчуваюць, што з новым прэзыдэнтам можна палепшыць сваё жыцьцё. Таму яны прагаласуюць за новага лідэра, бо ніхто ня мае права змусіць чалавека прагаласаваць за Лукашэнку наноў.

Адыходзячы ад гэтага можна сказаць, што ня трэба маўчаць, калі вас што-небудзь не задавальняе ў краіне, ці баяцца сказаць нешта ня так пад ціскам таго, што з табою можа нешта здарыцца. Трэба з такімі памылковымі ўяўленьнямі змагацца! Усё ў нашых руках, бо выбары гэта адна з крыніцаў зьмены жыцьця для тых, каго яно не задавальняе.

А тыя, хто незадаволены, а маўчыць, ці байкатуе прэзыдэнтскія выбары, тыя проста ня ведаюць, што нават можа здарыцца гэтак, калі як раз не будзе ставаць менавіта вашага голасу. З-за гэтага зноў невядомым будзе далейшы ваш лёс. Вось і думайце, ці хацелі б вы быць вінаватымі ў гэтым? Можа, калі ня прыйдзеш, нічога й ня здарыцца! А што, калі здарыцца?! Задумайцеся! Ці можна абыякава ставіцца да свайго жыцьця? Рабеце высновы!

# НАВАСАДЗКАЯ ПРЭСА

Альгерд Зямлінскі

***"Як жыць, дык жыць для Беларусі, а безь яе зусім ня жыць", – словамі вядомай беларускай паэткі Ларысы Геніюш маладыя хлопцы з Навасадаў адкрываюць сваю маладую газэту.***



ПАВЯТОВЫ ЛЕТАПІС

МОЛАДЗЕВАЯ ГАЗЭТА ЎСХОДНЯЙ БАРЫСАЎШЧЫНЫ

ПЕРШЫЯ КРОКІ

ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

ПРЫЕХАЎ ДРОННЫ ДЗЯДЗЬКА... с.2

ГІСТАРЫЧНЫ ШЛЯХ НАВАСАДАЎ с.3

СЬЦЯГ

На працягу трох месяцаў выйшла ўжо два нумары моладзевага выданьня Ўсходняй Барысаўшчыны "Павятовы летапіс". Гэта першая газэта такога кшталту за ўсю гісторыю гэтага барысаўскага рэгіёну.

У сваім звароце да чытачоў рэдакцыя выказвала абсалютна сэнсоўны спадзеў на тое, што "Павятовы летапіс" "будзе вылучацца сваёй адметнасьцю сярод агульнай масы выданьняў". І спадзеў не аказаўся марным. Газэта надзвычай цікавая і зьмястоўная, чытаецца, так бы мовіць, ад першае літары да апошняе.

Што найбольш прываблівае ў газэце, дык гэта арыгінальнасьць матар'ялаў, лякальная іх прывязка, вастрыня ўзьнятых праблемаў, сакавітая беларуская мова ў клясычным, тарашкевічаўскім варыянце, а таксама яскравы, ёлкі гумар.

"Павятовы летапіс" – газэта моладзевая, таму рэдакцыя не памылілася, калі сьцьвердзіла, што зьбіраецца уздымаць "самыя розныя тэмы, што хвалюючь моладзь". Прызнаюся, уздымаюць прафэсійна!

# МАЯ РОДНАЯ МОВА

Алеся Якаўчык

***Родная мова...***

***Як цяжка пісаць пра яе, калі яна ці ня цалкам вытручаная з сэрцаў сёньняшняга пакаленьня беларусаў. Цяжка прызнавацца ў любові да мовы, якую, на жаль, так і ня здолеў вярнуць нават у сваё сэрца.***

Аднак, нягледзячы на гэта, я яе вельмі люблю, бо на ёй размаўлялі мае Дзяды. Нібы праз смугу ўсплываюць словы маёй бабулькіі: шыба, ганак, весьніцы, ланцуг, плот, гарбуз, паветка... Божа, якія гэта ёмістыя, усеабдымныя словы! Якая вечная дабрыня ад іх сыходзіць! Я перакананая, што носьбіт беларускае мовы ня можа быць ані злачынцам, ані здрайцам сваёй зямлі, шматпакутнай Беларусі.

Кожны народ мае сваю адметную мову, адзіную й непаўторную. Кожны народ, ягоны лёс, мінуўшчыну й прышласьць можна вызначыць па ягонае мове, як, зрэшты, і наадварот. Нашая мова аксамітная, вельмі цёплая, пяшчотная. Чамусьці, калі я пра яе думаю, успамінаецца пах духмянага сырадою, таго, які хочацца піць, піць і піць. Пішу гэта й робіцца вусьцішна, бо згадваю 14 траўня 1995 году



Кожны народ мае сваю адметную мову, адзіную й непаўторную. Кожны народ, ягоны лёс, мінуўшчыну й прышласьць можна вызначыць па ягонае мове, як, зрэшты, і наадварот.

– дзень і год нашае агульнабеларускае ганьбы, дзень і год, калі дарослыя адабралі будучыню ў сваіх дзяцей, прамянялі на жменю брудных бясcрэбнікаў для трыюмфу ідэі-фікс. Хочацца крыкнуць ім: “Што ж вы нарабілі?!”, аднак страшна, бо ня хочацца быць абсьмяянай гэтымі людзьмі. А ці людзі яны ўвогуле? Аднак, хіба можна быць абсьмяянай разам з мовай Скарыны, Багушэвіча, Багдановіча, Купалы, Караткевіча, разам з мовай маёй Бацькаўшчыны.

Так, бяз мовы няма народу. Гэта пэўна! І яе трэба неадкладна ратаваць! Але грамадзтва маўчыць, і таму я адчуваю і сваю віну ў гэтым, бо таксама маўчу й нічога для ейнага адраджэньня не раблю. Добра, што хоць сэрца рвецца на кавалкі, крываточыць, а значыць надыйдзе час і ўсе страхі й душэўныя забабоны зьнікнуць што туман, і я нарэшце шырока адкрыю сваю душу для яе.

Хацелась бы неяк завяршыць больш-менш аптымістычна, аднак згадваюцца панчанкавы радкі:

Ці плачу я, ці пяю?
Восень. На вуліцы цёмна...
Пакіньце мне мову маю,
Пакіньце жыцьцё мне!



# ДЭМАКРАТЫЯ?!

**Надоечы мы вырашылі правесьці невялічкае бліц-апытаньне: “Што такое ў вашым разуменьні дэмакратыя?” І вось што атрымалася...**

***Віктар, 24 гады, прадпрымальнік***

Дэмакратыя – гэта калі народ свабодны, ніхто не памыкае ім, ніхто яго не прыцiскае. Гэта калі людзям даюць свабодна разьвівацца й нармальна займацца бізнэсам. Калі ўлада працуе не на сябе, а для народу.

***Аляксандар, 23 гады, нефармал***

Гэта раўнапраўе, свабода думак, свабода прэсы, магчымасьць ладзіць канцэрты г.зв. “сатаніскіх” камандаў...

***Аляксандар, 25 гадоў, мэнэджэр***

Я ня ведаю, што азначае дэмакратыя. Магу толькі сказаць, што я разумею пад гэтым словам. Гэта свабода ўсіх людзей, свабода ў душы, памкненьнях, свабода выбару. Карацей, мець свабоду ўва ўсім, але каб гэта не пераходзіла па-за межы.

***Алена, 18 гадоў, студэнтка***

Дэмакратыя – гэта свабода слова, свабода дзеяньняў незалежна ад асабістага становішча ў грамадзтве. Калі людзі падпарадкоўваюцца законам, якія яны лічуць патрэбнымі для краіны, а не для тых, хто іх прыдумляе.

***Наташа, 19 гадоў, навучэнка***

Нас вучылі, што дэмакратыя – гэта ўлада народу. Беларусь адна з апошніх краінаў Эўропы, якая пакуль не зразумела, што менавіта дэмакратыя нас выратуе. Пры дыктатуры лукавага бацькі мы ўжо нажыліся-насёрбаліся. Пара абіраць дэмакратычнага прэзыдэнта.

***Павал, 18гадоў, ліцэіст***

Дэмакратыя – улада народу, улада наша з вамі. Мы вольныя самі абіраць і прымаць рашэньні. Бо толькі агульнымі намаганьнямі можна прыйсьці да адзінага правільнага рашэньня. Таму, ўрэшце рэшт, мы прыйдзем да дэмакратыі. І я думаю, што на будучых прэзыдэнцкіх выбарах мы разам зробім першы і ўпэўнены крок да дэмакратыі.

Апытвалі Ян Баркоўскі і Надзея Красоўская

Барысаўская МАЛАДАЯ ГАЗЭТА

# МЯНЕ НЕ РАЗУМЕЮЦЬ... І ШТО?

Sandra

*Людзі разумеюць адзін аднога толькі на побытавым узроўні. Прыблізна на гэткім:*

*– Мне дзьвесьце грамаў масла, калі ласка.*

*– З вас пяцьсот рублёў.*

*Альбо:*

*– Ці хацеў бы крыху пад'есьці?*

*– Нядрэнна б...*



Каханы хлопец, які здаваўся табе самым блізкім чалавекам на гэтай зямлі, адводзіць вочы ў бок, кажучы: "Нават ты ня ў стане мяне зразумець..."

Мая родная маці абсалютна не разумее, што мяне прываблівае ў доўгіх байках па-калена, дзесяці завушніцах увушшу, падраных джынсах, добрым "рычаньні" жалезнага "каня" з храмаванымі бакамі...

Лепшы сябра кідае тэлефанічную слухаўку з крыўдаю ў голасе: "Калі ты ня можаш мяне зразумець, лепей не чапай мяне!"

У вачох сваёй маці ты таксама чытаеш непаразуменьне, якое, падобна ледавіковай мерзьліне паграджае перайсьці ў вечнае...

Пра ўзаемаразуменьне можна размаўляць сярод тых, хто ў зносінах не абмяжоўваецца падобным побытавым узроўнем. Бо што значыць разумець? Успрыняць інфармацыю ды адпаведна адрэагаваць. Але ёсьць у адносінах такая нябачная мяжа, паўстае такі нябачны мур, калі словам надыходзіць край. Гэта амаль немагчыма выказаць. Прыблізна гэтак як і патлумачыць сьляпому ад народзінаў, што такое чырвоны колер або бляск сонечнага сьвятла.

Мая родная маці абсалютна не разумее, што мяне прываблівае ў доўгіх байках да калена, дзесяці завушніцах увушшу, падраных джынсах, добрым "рычаньні" жалезнага "каня" з храмаванымі бакамі альбо ў стылю гіпі.

Хтосьці не разумее, што можна разгледзець ўначы з дахаў гарадзкіх хмарачосаў, што можна адчуць у начным восеньскім лесе, у



шпацыры па лужынах пасьля ліпеньскага дажджу, у сядзеньні на траве, у кампазыцыях Queen, Gods Tower і NRM.

Бо ўсе людзі занадта розныя і своеадметныя. А мая маці не ўспрымае маіх сяброў і прыяцеляў, якія, у сваю чаргу, паважаюць мае пагляды й цярпліва выслухоўваюць мае "дзіўныя" казкі. Ніхто ніколі не разумее, але ёсьць людзі, якіх мы шчыра любім. Аднак мы не разумеем, калі ім дрэнна, калі баліць, гэтаксама й калі ім добра й хораша. Але мы адчуваем гэта, толькі чамусьці ня ведаем, што трэба рабіць, але часам падсьвядома робім як раз тое, што неабходна ў дадзены момант.

Адчуваць, прымаць, засвойваць, успрымаць, акцэптаваць, асэнсоўваць, разумець, пранікацца, усьведамляць, эмпатаваць...

Можна дасканала разумець тэорыю электралітычнае дысацыяцыі, бачыць розьніцу паміж кубізмам і канструктывізмам..., але як зразумець чалавека ці зьведаць яго?..

Па ўсьмешцы, позірку, тону й тэмбру голасу, па словах, па вобразах, якія нараджаюцца ў словазлучэньнях менавіта гэтага чалавека.

"Сонейка патлатае, нячысьцік мурзаты..." – і ніхто, акрамя цябе, не ўразумее, што гэтым жадалі выказаць.

Можна дасканала разумець тэорыю электралітычнае дысацыяцыі, бачыць розьніцу паміж кубізмам і канструктывізмам, ведаць сыстэматыку жывёлаў і прыроду анамальных зьяваў, але як зразумець чалавека ці зьведаць яго?.. Адзін надта разумны дзядзька, якога звалі В.Шчарбакоў сказаў: "Шмат чаго можна ўмець, ня ведаючы сапраўдных прычынаў. Умець цікавей, чым ведаць". Мабыць тое самае можна сказаць і пра паразуменьні.

Магчыма, хтосьці скажа, прачытаўшы гэта: ну і што далей? Скончу тым з чаго пачала: у кожнага з нас свой пагляд ды свая манэра паведамляць аб тым, што бачыш. Я ўбачыла нашыя адносіны такімі. Нехта ўбачыць іх інакш... Ня ў тым сэнс. Галоўнае, што зараз такі час, калі большасьць людзей шчыра імкнецца разумець адзін аднаго і знаходзіць у гэтым паразуменьні простую людзкую радасьць.

# Тацяна Карнацкая: «...МЫ ДАСЯГНЕМ ЛЕПШЫХ ВЫНІКАЎ»

***Тацяна Карнацкая, навучэнка Барысаўскага політэхнічнага ліцэю, далучылася да шэрагаў мясцовага Маладога Фронту «Барысавічы» імкліва і ўпэўнена. Сэрцы юных маладафронтаўцаў сьцяліся ў пакоры. Яны ўбачылі ў ейных прывабных, іскрыстых вачох прывід арлеанскае дзевы Жанны Д'арк...***

**Таня, калі Ты ўпершыню пачула пра Малады Фронт? Ці адразу вырашыла далучыцца да гэтай арганізацыі?**

Упершыню пра МФ я пачула ад сваіх сяброў больш за год таму. Мне шмат апавядалі пра дзейнасьць арганізацыі, прыносілі газэты, у якіх я знаходзіла шмат цікавага для сябе. Мяне адразу прывабіла тая палітыка, якую праводзіў МФ. Мне спадабалася таксама й тое, што ў Беларусі ёсьць такая моладзь, якая стараецца адрадзіць беларускую культуру, мову, традыцыі, змагаецца за Незалежнасьць.

Далучыцца да МФ я вырашыла амаль адразу, бо ўжо й да гэтага жадала знайсьці такую моладзь, якую б клапаціў лёс Беларусі і ейная будучыня. Дый увогуле даўно марыла аб тым, каб знайсьці пачэсную справу, справу, якой варта было б заняцца, каб зрабіць жыцьцё ў нашай краіне лепей.

**Цікава, а як ставяцца да Цябе Твае прыяцелі, якія не займаюцца грамадзкай дзейнасьцю?**

Амаль што ўсе мае сябры падтрымліваюць маю дзейнасьць. Многія зь іх нават спрабаюць размаўляць па-беларуску. Што мне асабліва прыемна. Канешне, спачатку ўсё гэта ўспрымалася са зьдзіўленьнем, а зараз усе разумеюць мае пагляды й памкненьні, бо пад маім уплывам самі пачынаюць разумець, што значыць любіць Беларусь і быць адданым ёй. Таму ніякіх непаразуменьняў у нас на гэты конт увогуле не ўзьнікае.

**Як Ты ацэньваеш узровень барысаўскага МФ у той час, калі Ты да яго далучылася?**

Нават ня ведаю як канкрэтна ацаніць узровень дзейнасьці МФ на той час. Мабыць тады ўсё было яшчэ вельмі сьціпла, бо МФ яшчэ толькі разгортваў сваю дзейнасьць, але ўжо тады нейкія спробы зьмяніць штосьці да лепшага назіраліся. Але першыя спробы заўжды цяжка рабіць.

**А што Ты назіраеш сёньня?**

У параўнаньні з тым часам зрухі адбываюцца, і значныя: выдаецца шмат



Барысаўская Жанна Д'арк з сваімі ваярамі

газэтаў, праводзяцца сэмінары, навучаньні. І ўвогуле зьявілася магчымасьць больш часу займаца моладзьдзю, ейнымі праблемамі й тым, што яе цікавіць. Зьявіліся канкрэтныя пляны, паводле якіх можна працаваць ды разьмяркоўваць усю дзейнасьць. Канешне, варта згадаць і пра масавыя акцыі, у якіх чынны ўдзел прымаюць барысаўскія маладафронтаўцы. Праўда, часьцей у Менску, але, мяркую, неўзабаве дзейнасьць разгорнецца і ў Барысаве, бо наперадзе прэзыдэнцкія выбары!..

**На колькі я разумею, сёньня Ты зьяўляесься лідэркай барысаўскага МФ. Ці не баісься адказнасьці?**

Адказнасьць павінна быць ува ўсіх справах, нягледзячы на тое, ці зьяўляесься ты лідэрам. Бяз гэтага нельга нават арганізоўваць любую дзейнасьць. А з тае прычыны, што на цяперашні час лідэркай зьяўляюся я, то я паспрабую зрабіць усё, каб паказаць прыклад нашай моладзі. Канешне, на першы час падтрымка спатрэбіцца, бо трэба яшчэ шмат часу вучыцца і мне. Але, спадзяюся, што хутка я змагу рабіць усё самастойна.

**Якія Ты ставіш пляны на бліжэйшую будучыню сваёй арганізацыі? Ці патрэбна аб'ядноўваць намаганьні зь іншымі моладзевымі арганізацыямі рэгіёну?**

Плянаў, канешне, у нас шмат. Будзем спрабаваць іх усе напоўніць рэальным зьместам. Будзем імкнуцца праводзіць менавіта ў Барысаве больш трэнінгаў (праўных, інфармацыйных, выдавецкіх ды йнш.) Таксама будзем далучаць да МФ большую колькасьць моладзі.

Я лічу, што аб'яднаньне зь іншымі моладзевымі арганізацыямі нам вельмі патрэбнае, бо мы працуем у адным накірунку, і чым больш людзей будзе задзейнічана ў нашай супольнай працы, тым лепшых вынікаў мы дасягнем.

Гутарыў Ян Баркоўскі



Канфэрэнцыя Маладога Фронту "Барысавічы". Канец лістапада 1999 году

# STOP SMOKE!

Алена Аўтушка

***Калі ты ўпершыню паспрабаваў смак тытуню, мой дружа? Тады, калі выцягнуў з кішэні бацькі цыгарэту і ўпотайкі ўдыхнуў гаркавы дым, зайшоўшыся ад кашлю? Ці калі разам зь сябрам падабраў кінуты на зямлю бычок і вы ўдвох курылі на гаўбцы? І было гэта яшчэ ў пачатковай школе?***

Сябры мясцовага моладзевага журналісцкага клюбу, што працуе пры Барысаўскім сацыяльным жаночым аб'яднаньні "Правінцыя", праанкетавалі 100 сваіх сябрукоў на прадмет паленьня. Высьветлілася, што паляць 59 падлеткаў з сотні ва ўзросьце ад трынаццаці да сямнаццаці гадоў. Большасьць зь іх пачалі паліць у дванаццаць–трынаццаць гадоў. А некаторыя амаль што соску замянілі цыгарэтай.



### ПАЛІ Й МАЎЧЫ...

Прызнайся сабе, мой дружа, навошта ты паліш? Нашто труціш сябе, маладога? Няўжо адчуваеш у гэтым фізычную патрэбу? А мо пускаеш дым, каб падавацца больш сталым й паважным? Каб заняць нечым рот й захоўваць задуменнае маўчаньне й сур'ёзны выгляд, калі вядзецца размова аб рэчах табе невядомых і незразумелых? Атрымоўваецца, што ты жывеш паводле прынцыпу "хочаш здавацца разумным – палі й маўчы".

А можа ты проста жадаеш быць "як усе"?

### ГРОШЫ НА АТРУТУ

Людзі даўно зразумелі тое зло, якое сыходзіць ад паленьня. І справа ня толькі ў тым, што кропля нікаціну забівае каня. Урэшце, ты заўсёды можаш супакоіцца тым, што ты ня конь! Кропля нікаціну забівае тваю індывідуальнасьць. Сярод сваіх дружбакоў, якія паляць, ты такі ж дурненькі, як і яны!

Нягледзячы на тое, што атрутныя ўласьцівасьці тытуню агульнавядомыя, у нашым недасканалым сьвеце не забаронена вырошчваньне тытуню й выраб цыгарэтаў. Найперш, гэта бізнэс – рухавік прагрэсу, і на нашым самагубстве нехта добра зарабляе, пачынаючы ад тытунёвых магнатаў, сканчваючы звычайнаю бабулькаю, якая прадае цыгарэткі ўраздроб, каб табе было "зручней". На самой справе зручней толькі ёй, бо ты ня маеш многа грошай, каб купіць увесь атрутны пакунак. І яна забірае рэшткі тваіх сьціплых зьберажэньняў. Чаму ты дазваляеш чужому чалавеку, які дбае выключна толькі аб сабе, аб сваёй уласнай карысьці, пазбаўляць цябе здароўя і самаўпэўненасьці? І чаму тым, хто на самой справе любіць і клапоціцца пра цябе, ты не дазваляеш табе дапамагчы? Згадай, твае блізкія й родныя ня раз спрабавалі пераканаць цябе, што цыгарэта – гэта дрэнь, але ім ты ня верыш, а верыш прыгожай, каляровай, але наскрозь ілжывай тэлерэкляме.



### TOO YOUNG TO DIE

Мы, жанчыны грамадзкага аб'яднаньня "Правінцыя", твае сучасьніцы, матулі і старэйшыя сёстры тваіх сяброў, заклапочаны няпростым станам вашага здароўя й вашага сьветапагляду. Мы ня хочам, каб нашыя дзеці, нашая моладзь паклала сябе на ахвярнік прывіднага задавальненьня. Мы любім цябе, дружа. Любі й ты сябе.

Барысаўскае сацыяльнае жаночае грамадзкае аб'яднаньне "Правінцыя" праводзіць масавую акцыю "Супраць паленьня сярод моладзі". Да яе ўжо далучыліся многія маладыя людзі нашага гораду. І калі ты ўбачыш у людным месцы налепку з надпісам "Too young to die – Не пачынай!", ведай, гэта мы зьвяртаемся да цябе. Падумай, ці хочаш ты ўжо зараз пачаць невылечна хварэць, каб марудна паміраць ад нікаціну?

Ты вельмі малады, каб памерці – не пачынай!

# ЧАС ЗАДУМАЦЦА...

Зьміцер Булай

***Некаторыя нашыя людзі, асабліва сталага веку, сумуюць па жыцьці пры савецкай уладзе. Маўляў, кошты былі невялікія, усё бясплатнае – адукацыя, ахова здароўя, жыльлё і г. д. Зарплата была, хоць і невялічкая, але яе хапала на ўсё неабходнае. Нават за год можна было сабраць грошы на паездку "дзікуном" на мора. Ніхто зь іх і не здагадваецца, што нічога бясплатнага не было, што ўсё жыцьцё людзям хлусілі.***

Насамрэч існавалі ўскосныя падаткі і ўсялякія грамадзкія фонды. У час гарбачоўскай перастройкі й галоснасьці ў адной з цэнтральных газэтаў было надрукавана, якія вылікі рабіліся з зарплатаў, але не праходзілі па выліковых ведамасьцях:

- на пэнсыю – 36%
- на жыльлё – 22%
- на ахову здароўя – 11%
- на адукацыю – 10%
- на транспарт – 6%
- на сацыяльнае страхаваньне – 5,4%
- на ўтрыманьне ўпраўленчага апарату – 5%

Агульная сума вылікаў складала 95,4%. На зарплату, за якую расьпісваліся, заставалася ўсяго 4,6%, што адпавядала 100–250 рублей.


Фота А.Ліціна

Нават з гэтай сумы ўтрымлівалі яшчэ й падаходны падатак. Атрымліваецца, што кожны, хто прапрацаваў 30–40 гадоў толькі на жыльлё ўнёс у грамадзкі фонд такую суму, за якую мог бы пабудаваць сабе 5–7 трохпакаёвых кватэраў. Аказваецца, што й адукацыя, і ахова здароўя не былі бясплатнымі. Дый на пэнсыю кожны працоўны выплаціў.

Ну, а куды выдаткоўваліся грамадзкія фонды? Перш за ўсё партыйныя функцыянэры разьмяркоўвалі іх на ўладкаваньне ўласнага райскага жыцьця. Яны мелі ўсё: лецішчы, машыны, кватэры, саўны, моднае адзеньне, паездкі за мяжу, паўнавартасны адпачынак і лекаваньне.Шмат грошаў выдаткоўвалася на стварэньне і вытворчасьць зброі, каб трымаць увесь цывілізаваны сьвет у страху й напрузе. Вялікія сумы йшлі на падтрымку дыктатарскіх рэжымаў і на фінансаваньне кампартыяў іншых краінаў. Такім чынам, тыя 4,6%, што выдаткоўваліся на рэальную зарплату складалі 100–250 руб., гэта адпавядала прыкладна 115–290 далярам.

Зараз у Беларусі зарплата складае прыкладна 20–30 даляраў. Кошты вырасьлі да фантастычных памераў, хаця дзяржаўная ўлада й "трымае кошты пад кантролем". Вельмі цікава, якія ж цяпер у нас ускосныя (схаваныя) падаткі, калі зарплата такая мізэрная? І куды цяпер ідуць велізарныя дзяржаўныя сродкі? Над гэтым трэба задумацца вельмі сур'ёзна. Асабліва нам – маладым.

# БЕЛАРУСКІЯ СТАЛІЦЫ

Падрыхтаваў Зьміцер Булай

***Сталіцамі першых летапісных княстваў у IX–X ст.ст. былі Полацак, Смаленск і Тураў. Пасьля таго як Тураў і Смаленск часова папалі пад кіеўскіх князёў, Полацак застаўся адзіным цэнтрам магутнага беларускага гаспадарства – Полацкага княства.***

Асабліва выдатнае палітычнае значэньне ён набыў у XI ст. пры Ўсяславе Чарадзею, а культурнага росквіту дасягнуў пры яго ных нашчадках у XII ст. Пасьля раздробленьня Полацкага княства на захадзе Беларусі пачала фармавацца новая беларуская дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае. Ейнаю сталіцаю вялікі князь Міндоўг зрабіў Новагародак (Наваградак).

У1323 годзе вялікі князь літоўскі Гедымін сталіцу дзяржавы перанес у Вільню. Вільня заставалася сталіцаю Вялікага Княства да канца XVIII ст. Аднак цэнтрам беларускага палітычнага й культурнага жыцьця яна была амаль да сярэдзіны XX ст. З утварэньнем у 1918 годзе незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, а ў 1919 годзе – БССР палітычнаю сталіцаю Беларусі становіцца Менск, пераназваны бальшавікамі ў 1938 годзе ў Мінск.



Барысаўская МАЛАДАЯ ГАЗЭТА

Tel./fax(01777)30180
E-mail:
mbh@crossrd.org.by
Кантактная адрэса:
222120, Барысаў-15,
п/с 641
Наклад 299 ас.

Рэдагуе **Тацяна Карнацкая** (tel.01777-41384 e-mail sas@crossrd.org.by) з групай. Тэхнічны рэдактар – **Алесь Гячанскі** (tel.01777-68506; e-mail alex@crossrd.org.by). **Марына Скатарэнка** – сакратарка. Грамадзка-палітычны адзьдзел – **Альгерд Зямлінскі** (tel.01777-69381; e-mail sah@crossrd.org.by). Адзьдзел рэклямы – **Алег Грышановіч** (tel.01777-68416; e-mail bhr@crossrd.org.by). Заснавальнік газэты – **Зьміцер Булай**. Газэта заснаваная ў жніўні 2000 году. 

**Карчма "У Марыйкі"**

# Каб елася й яшчэ хацелася

**Вось вам, мае любыя гурманы, смакошчы, якія я сёньня, адрываючы ад свайго шчырага сэрца, ахвярую...**

### *Рыба ў кляры "Вялікая спакуса"*

Пачнем з таго, што рыбнае філе пашынкуем на кавалачкі. Затым, узьбіўшы курынае яйка і 300 грамаў сьветлага піва, прыгатуем цеста. Працягваючы ўзьбіваць месіва, дадамо перцу, солі, сыпанем пяць сталовых лыжак мукі, толькі, калі ласка, паступова. Зьесьці заўсёды пасьпееце...

Пасьля нясьпешнага ўзьбіцьця цеста, умакнем у яго кавалачкі рыбы й засмажым на патэльні *Tefal* да залацістага колеру. Вось і ўсё, рыба, так бы мовіць, у кляры гатовая.

**Прафэсійна й са смакам прыгатаваныя канапкі – лепшая, як казаў некалі Вацлаў Ластоўскі, перакуска для маладзевай кампаніі за куфлем бурапеннага лідзкага піва...**

### *Канапкі з кілбаскай "Кур'ер"*

Спачатку расьцярэм на цёрцы вараную кілбасу разам з сырам і крыху абсмажыць цыбульку. Затым усё акуратна перамяшаем, дадамо адно сырое яйка, маянэз, часнык, прыправу на ваш уласны густ. Месіва мусібыць трохі вадкім, каб можна было намазаць на ценькія лустачкі малочнага батону й абсмажым на алею.

**І абавязкова пакаштуйце вось гэтую вельмі прыгожую страву. Я ўпэўненая, што яна ўсім спадабаецца, бо, як кажуць, "вочы дапамогуць зьесьці"...**

### *Лімонавы дэсэрт "Зянон"*

Два вялізных лімоны неабходна пачысьціць і нарэзаць скрылечкамі. Потым пасыпаць іх цукровую пудраю, ванільным цукрам і драбленымі грэцкімі арэхамі. І зьверху нашынкуйце чакалядку.

**Смачна есьці вам, альбо, як кажуць альбанцы, *të bëftë mirë!***

**Даведайся пра сябе**

# Ці сапраўдны Вы навучэнец?

**Абярыце сабе найбліжэйшы варыянт адказу**



1. Што, як Вам падаецца, найгалоўнае ў жыцьці навучэнца?
a) урокі, бібліятэка, іспыты
b) сябры
c) моцныя алькагольныя напоі
d) піва

2. Што такое іспыт?
a) спраўджваньне ведаў
b) некалькі начэй бяз сну
c) шампанскае настаўніку
d) багата піва

3. Прычына, якая можа змусіць Вас прагуляць кантрольную?
a) аніякая
b) сустрэча з каханкам/каханкаю
c) якая-кольвек
d) вельмі шмат піва

4. Ці разумееце Вы тое, што кажа настаўнік?
a) разумею ўсё
b) разумею ня ўсё
c) ані каліва не разумею
d) разумею ўсё апасьля некалькіх бутэлек піва

**Цяперака, будзьце ласкавыя, спраўдзіць свае адказы:**

**Дамінуе адказ "a".** Вучань вы, мабыць, і выдатны, але для грамадзтва згублены назаўсёды. Паспрабуйце глытануць піва ды прагуляць пару лекцыяў. Калі не спадабаецца, раю зьвярнуцца да псыхіятра.

**Дамінуе адказ "b".** Вы ледзьве не дацягнулі да клясычнага ўзору шкаляра. Не засмучайцеся й не пакутуйце – наперадзе цэлы год, і з вас яшчэ можа атрымацца выбітны спэцыяліст.

**Дамінуе адказ "c".** Вы пераходзіце за рамкі дазволенага. Таму, калі не жадаеце даўжэй затрымлівацца ў радзімае школе, заглядайце ў яе крыху часьцей. Па-першае, каб ведаць, чаму там вучаць, а па-другое, каб настаўнікі раптам не забыліся, як вы выглядаеце.

**Дамінуе адказ "d".** З радасьцю Вас віншуем! Вы – клясычны прыклад навучэнца, большая частка жыцьця якога праходзіць пад дэвізам "леней за піва – толькі яшчэ больш піва!" Так трымаць!

Тэставала Яна Алексіевіч

# Сьмех сьмехам...

Я начак чапляецца да бацькі:
– Тата, а як выглядаюць мазгі?
– Адчапіся!
– Ну, калі ласка, скажы, як выглядаюць мазгі?
– Адчапіся, кажу, у мяне іншае ў галаве.



Пакупнік прыходзіць у краму і скардзіцца:
– Учора набыў у вас коўдру. Вы казалі, што яна з чысьцюткае поўсьці. А дома ўгледзеў этыкетку – 100% бавоўны.
– Так, гэта праўда. Гэтая этыкетка прышытая адмыслова дзеля таго, каб падмануць моль.

